Дыскусія наконт таго, павінна ці не павінна існаваць смяротнае пакаранне, – на 2-й старонцы.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**


# Народная Воля

№ 85 (4337)

26 кастрычніка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Візіт Мясніковіча перанесены

Як паведамлялася, старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу **Міхаіл Мясніковіч** мусіў прысутнічаць у Варшаве на Польска-Беларускім бізнес-форуме, у якім па запрашэнні Нацыянальнай эканамічнай палаты Польшчы бралі ўдзел прадстаўнікі 38 нашых прадпрыемстваў самых розных галін. Аднак у апошні момант візіт не адбыўся, і форум прайшоў без удзелу высокіх гасцей.

«*Тэрмін высокага візіту перанесены на пазнейшыя даты*», – сказала прадстаўнік Пасольства Беларусі ў Варшаве, дырэктар культурнага цэнтра **Ілона Юрэвіч**.

БЛІЦ

*Прэм'ер-міністр Сяргей Румас назваў рэкордным рост пенсій у гэтым годзе – пасля лістападаўскага павышэння ён перавысіць 20%. З 1 лістапада сярэдні памер працоўных пенсій складзе 388,1 рубля, пенсій па ўзросце – 393,96 рубля.*

## На колькі павысіцца ваша пенсія і як гэта адаб'ецца на вашым дабрабыце?

**Інеса ДРАБЫШЭЎСКАЯ, міністр аховы здароўя 1994–1997 гг.:**

– Ніяк не адаб'ецца, бо ўсе гэтыя павышэнні застаюцца ў гастраноме. Прычым мая пенсія як чыноўніка – не самая маленькая, муж атрымлівае значна менш – мізэр. Ледзь укладваемся, жывём ад пенсіі да пенсіі.

**Іосіф МАЦЮН, былы настаўнік, г.Вілейка:**

– З 1 лістапада пенсіі павысяцца на 5,3 працэнта. У мяне цяпер 402 рублі 82 капейкі, значыць, пенсія вырасце прыблізна рублёў на 20. Кошты, вядома, растуць больш. Але і 20 рублёў – ужо добра: на тэлефон можна пакласці.

Аднак калі паглядзець у дынаміцы, то сёлетняе павышэнне ўсё роўна не верне нават тыя пенсіі, якія былі некалькі гадоў таму. Я запісваю памер пенсіі ў доларавым эквіваленце. Дык вось у жніўні 2014 года пасля павышэння мая пенсія складала 271 долар, а ў гэтым годзе пасля жніўеньскага павышэння – 202 долары. Але і атрымліваючы столькі, мне грэх скардзіцца, таму што ў сельскай гаспадарцы і гэтага няма. Мой сваяк з Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці адпрацаваў вадзіцелем у ААТ «Канстанцінаў двор» і атрымаў пенсію 218 рублёў, цяпер, можа, да 250 вырасла. Як пражыць на такія грошы?

**Валерый ШАРЫЙ, алімпійскі чэмпіён па цяжкай атлетыцы:**

– Асабіста на маім дабрабыце гэтае павышэнне не адаб'ецца, бо я ваенны пенсіянер, а нам чарговую дабаўку да пенсіі абяцаюць толькі ў будучым годзе. Акрамя таго, мяне падтрымлівае Міністэрства спорту і турызму. Таму ў параўнанні з грамадзянскімі пенсіямі атрымліваю значна больш. Не скажу, што гэта шыкоўная пенсія, але і не скарджуся.

**Зінаіда БАНДАРЭНКА, народная артыстка Беларусі:**

– Як адаб'ецца на дабрабыце? Можа, зможам пасля павышэння купляць усе імпартныя лекі. Не хачу нічога кепскага сказаць пра айчынныя, але нам з мужам яны не дапамагаюць.

Канешне, 20-працэнтнае павелічэнне пенсій за год – гэта вельмі добра. Але я ўвесь час думаю пра вясковых пенсіянераў, як яны выжываюць, бо і з гэтымі павышэннямі іх пенсіі капеечныя. У нас яшчэ больш-менш нічога, нешта можам выкраіць. Я атрымліваю каля 600 рублёў пенсіі, муж – яму за 80 – больш за 400, і таму за кастрычнік на дваіх выйшла 1096 рублёў. У Беларусі многія сем'і з дзецьмі такі даход не маюць....

**Ніна ЛЯВОНЧЫК, філолаг, г.Мінск:**

– Ніколі не сачу за павелічэннем пенсій і ніколі гэтаму не радуюся. Кажу шчыра, бо як заходжу ў магазін, то вельмі добра разумею, што мая дабаўка да пенсіі даўным-даўно з'едзена цэнамі. На пенсію магу купіць усё менш і менш. Паглядзіце, як растуць кошты на хлеб: то на дзве капейкі, то на тры, то на пяць, а пра мяса дык і гаварыць няма чаго. І мая пенсія лічыцца не такой ужо і малой, хоць і не сказаць, што вялікай. Дзякуй Богу, здароўе дазваляе яшчэ працаваць, і я кожны дзень хаджу на работу. Трапіўся добры начальнік, кажа, што я магу займаць сваю пасаду да дзевяноста, а то і болей гадоў.

**Аляксандр ВАЛЧАНІН, былы фельчар «хуткай дапамогі», г.Жодзіна:**

– Літаральна на днях – 24 кастрычніка – атрымаў пенсіённае пасведчанне, таму навіну аб лістападаўскім павышэнні ўспрымаю вельмі станоўча, нават радасна. Атрымаю адразу павышаную пенсію, а гэта рублёў 430 выйдзе. Акрамя таго, ёсць яшчэ зарплата. Я на пенсію выйшаў па выслузе гадоў, 34 гады адпрацаваў на «хуткай дапамозе». А паколькі яшчэ малады – мне 56 гадоў, поўны здароўя і сіл, то працягваю працаваць. На жаль, з "хуткай" вымушаны быў сысці, хаця працу гэтую люблю і ведаю, маю вышэйшую катэгорыю. А ўсё таму, што, паводле нашых законаў, ільготную пенсію не плацяць, калі чалавек застаецца працаваць на шкоднай вытворчасці.

**Зінаіда ШУМІЛІНА, інжынер, былы начальнік бюро аўтаматыкі гомельскага ліцейнага завода «Цэнтраліт»:**

– Усё свядомае жыццё я адпрацавала на заводзе, а ў выніку не заслужыла нават сярэднюю пенсію па краіне. У гэтым месяцы ў мяне было 355 рублёў.

На жаль, наша пенсія не адпавядае нашым патрэбам. Купіш лекі, заплаціш камуналку – і застаюцца слёзы. Таму пяціпрацэнтнае павышэнне пенсій – гэта не падстава радавацца і казаць пра паляпшэнне дабрабыту.

**Апытвала Марыя ЭЙСМАНТ.**

БЕЛАРУСЬ – УКРАИНА




## Гомель вітае гасцей

Менавіта ў гэтым абласным цэнтры адбываюцца ўсе мерапрыемствы, звязаныя з правядзеннем Форуму рэгіёнаў Беларусі і Украіны. Сёння, у пятніцу, тут сустрэнуцца Аляксандр Лукашэнка і Пётр Парашэнка.

Напярэдадні знакавай падзеі цэнтральныя вуліцы горада нагадвалі будаўнічыя пляцоўкі. У адным месцы падфарбоўвалі сцены будынкаў, у другім клалі асфальт, у трэцім мянялі тратуарную плітку. Што ж, гасцей беларусы заўжды сустракаюць прыгожа!

Але ж важна іншае – вынікі форуму. Ці стануць стасункі з паўднёвай суседкай больш моцнымі? Ці ўдасца пазбавіцца ад кліна, які ўбівае ў нашы адносіны з Кіевам Масква? Мноства іншых праблем трэба вырашаць Беларусі і Украіне.

ПРОЕКТ

## Больше денег на социальную сферу

*Министерство финансов внесло в Палату представителей для ознакомления депутатов проект республиканского бюджета на 2019 год.*

Первые выводы после ознакомления с документом – в бюджете на следующий год планируется усилить социальную направленность, что вполне логично в преддверии политических кампаний.

Так, в следующем году на социальную сферу планируется направить 16,1 млрд рублей, что на 12,5% больше, чем в текущем. Увеличится также объем поддержки граждан, нуждающихся в строительстве жилья. Предполагается рост ВВП на 2,1%, цен в среднем за год – на 5,3%. Ставка рефинансирования сохранится на уровне 10%. Курс доллара в среднем за год составит 2,2160 рубля. Цена на нефть – 60 долларов за баррель.

Доходы республиканского бюджета прогнозируются на уровне 23,5 млрд рублей, консолидированного (с местными бюджетами) – 36,6 млрд рублей. Расходы республиканского бюджета запланированы на уровне 21,8 млрд рублей, консолидированного – 35,1 млрд рублей.

ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

## «Паставіць у пашпарт штамп аб рэгістрацыі на беларускай мове немагчыма...»



*Кіраўнік грамадскай дырэкцыі мэмарыяла "Курапаты", адказны сакратар управы сойму КХП–БНФ Алесь Чахольскі патрабуе, каб яму паставілі ў пашпарт штамп аб рэгістрацыі па месцы жыхарства на роднай мове. Кіраўнік аддзела па грамадзянстве і міграцыі Фрунзенскага РУУС Мінска сцвярджае, што гэта немагчыма.*

"Я змяніў месца жыхарства і таму звярнуўся, каб мне паставілі адпаведны штамп у пашпарце, – *распавёў Алесь Чахольскі "Народнай Волі"*. – Папярэдні штамп быў зроблены на беларускай мове, а цяпер усім у дакументы лепяць пячатку на рускай. Таму, падаючы дакументы на новую рэгістрацыю, адразу папярэдзіў пра сваю просьбу супрацоўнікаў аддзела па грамадзянстве і міграцыі. І прыклаў адпаведную заяву. Пашпартыстка мяне адразу адправіла ў раённы аддзел міграцыі: маўляў, нясіце дакументы самі. Я занёс, але выканаць маю просьбу там не змаглі. Супрацоўніца, якая прымала дакументы, проста ўпала ў ступар, калі пачула просьбу пра штамп на беларускай мове. Сказала, што з такім сутыкаецца ўпершыню. Я адказаў, што мяне гэта не хвалюе, – паводле Канстытуцыі ў нас дзве дзяржаўныя мовы. І калі раней быў такі штамп, чаму яго цяпер няма? Яны званілі ў Міністэрства ўнутраных спраў, кансультаваліся, што рабіць.

Я напісаў заяву на імя начальніка аддзела па грамадзянстве і міграцыі Фрунзенскага РУУС Ю.Канкаловіча і днямі атрымаў вось такі адказ: *"У адпаведнасці з пунктам 19 Інструкцыі аб парадку вядзення рэгістрацыйнага ўліку грамадзян па месцы жыхарства і месцы знаходжання, зацверджанай Пастановай МУС Рэспублікі Беларусь ад 15 лістапада №364 "Аб зацвярджэнні інструкцыі аб парадку вядзення рэгістрацыйнага ўліку грамадзян па месцы жыхарства і месцы знаходжання", у выпадку прыняцця станоўчага рашэння аб рэгістрацыі па месцы жыхарства на старонках 25–27 пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь праастаўляецца штамп аб рэгістрацыі па месцы жыхарства формы 21 згодна з дадаткам 7, дзе дадзены штамп зацверджаны на рускай мове.*

*У адпаведнасці з пунктам 20 Інструкцыі, тэкст у штампе аб рэгістрацыі па месцы жыхарства запаўняецца фіялетавым альбо чорным чарнілам (пастай) на рускай мове.*

*На падставе выкладзенага праставіць Вам у пашпарт штамп аб рэгістрацыі па месцы жыхарства на беларускай мове не ўяўляецца магчымым".*

У выніку мне вярнулі пашпарт без штампа. Але я хачу стварыць прэцэдэнт і буду абскарджваць гэтае рашэнне. Бо для мяне гэта прынцыпова! Думаю, да маіх патрабаванняў далучацца і іншыя грамадзяне Беларусі.

На мой погляд, гэта проста сорам – у беларускі пашпарт ставіць расійскую пячатку..."

**Марына КОКТЫШ.**

СПАДЧЫНА

## У Оршы прадалі дом, дзе жыў Уладзімір Караткевіч

Дом Караткевічаў размешчаны насупраць радзільні на вуліцы, якая носіць імя пісьменніка. Жывучы тут, Уладзімір Сямёнавіч напісаў адзін з самых вядомых сваіх твораў – "Дзікае паляванне караля Стаха". Сюды прыязджалі яго сябры, у тым ліку **Генадзь Бураўкін** і **Рыгор Барадулін**.

Да 2015 года ў доме жыў Юрый Барабаш, муж Раісы Валер'еўны, пляменніцы Уладзіміра Караткевіча. Шмат гадоў Юрый сачыў за домам. Пасля яго смерці ўласніцай стала яго дачка – Ірына, якая жыве ў Адэсе і рэдка бывае ў Оршы.

Напрыканцы ліпеня 2018 года Ірына выставіла дом на продаж. За будынак прасілі 15 тысяч долараў. Каб выратаваць ад разбурэння, яго збіраліся выкупіць аршанскія грамадскія актывісты. Але, наколькі вядома "Еўрарадыё", зрабіць гэта не атрымалася.

Паводле слоў дырэктара «Музейнага комплексу гісторыі і культуры Аршаншчыны» **Юліі Камаровай**, новы гаспадар не будзе руйнаваць хату Караткевіча. Дом пісьменніка набыў буйны беларускі бізнесмен **Андрэй Балабін**, ураджэнец Оршы. Ён мае намер перадаць яго музею Уладзіміра Караткевіча.

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА



Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

Курьезный случай произошел в Слуцке. Жених ехал на собственную свадьбу, когда один из автомобилей из свадебного кортежа не уступил дорогу SAAB под управлением работника Слуцкого РОВД. Произошло попутное столкновение. А когда водители стали выяснять причины ДТП, у жениха сдали нервы: он выбежал из машины и стал прыгать на автомобиле милиционера.

Последствия свадебного танца – повреждены капот, крыша и лобовое стекло, а на жениха завели уголовное дело по статье «Хулиганство».

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.* **Тэл. (8 017) 328 68 71**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Иногда они возвращаются

На меня как на бывшего комсомольско-молодежного функционера встреча президента с гродненскими студентами произвела несомненное впечатление. Пахнуло чем-то хорошо знакомым с еще домалофеевских времен: отличников учебы собрали для того, чтобы они отсидели еще несколько часов своей молодой жизни, слушая размышления главы государства, строившиеся в точности по теме памятного стихотворения:

*Когда и я был маленький,*
*С кудрявой головой,*
*И я катался в валенках*
*По горке ледяной.*

В общем-то, старая, уже весьма поднадоевшая песня. И обращать бы внимания не следовало, если бы не появившиеся в выступлении первого лица слегка жалобные нотки: братцы, не уезжайте, на кого вы нас оставляете…

И я подумал: а ведь эти как раз уедут. Именно они. Относительно успешные, зарабатывающие не баллы на экзаменах, а знания, соображающие, что к чему, – непременно уедут. А зачем им здесь оставаться? Жить от зарплаты до зарплаты? Но они могут заработать больше для себя, для своих семей, если не останутся здесь, а уедут. Из чувства патриотизма? Но им столько лет объясняли: вначале думай о Родине, а потом о себе. Не хотят они собственное будущее ассоциировать с этим советским лозунгом. То есть, конечно, можно воодушевленно выступить на митинге с красивыми словами, но они, несмотря на юношеский возраст, уже насмотрелись всего и думают иначе. Они помнят аресты вполне успешных бизнесменов, перед которыми никто не счел нужным публично извиниться; помнят министров в наручниках (я не про Леонова – я про Чеканова сейчас, о суде над которым ничего не слышно). Они успели прочесть о дедовщине в армии, заканчивающейся самоубийствами. Они точно знают, что в этой системе законодательных координат, как ты их ни меняй, несмотря на ваш талант, энергию, знания, вы мало чего добьетесь…

Тогда зачем оставаться в стране, на развитие которой они не могут повлиять? Они ведь точно знают, что не могут. У них перед глазами пример родителей, родившихся еще в глубоко долукашенковскую эру, пытавшихся чего-то добиться, но добившихся лишь одного – понимания, что из страны нужно «валить», если не самим, то хотя бы детям. Даже если при этом родители находятся на государственной службе или заработали деньги благодаря нейтрально-лояльному отношению к власти.

Это было забавно, когда один из преподавателей университета в изгнании рассказал как-то мне о социальном составе учащихся, с которыми он работает. Оказывается, значительную часть студентов составляют дети низовой номенклатуры, районных и местечковых олигархов-предпринимателей. Эта категория родителей в состоянии профинансировать учебу своих отпрысков ради признаваемого в Европе диплома, оплатить в случае необходимости им жилье, а потом и свадьбу – чтобы уж наверняка отпрыск остался за пределами Беларуси на легальном, но не политическом основании. При поддержке родителями изнутри Беларуси ребенок вполне может устроиться в Европе, жить там и работать. И в гости приезжать, внуков на радость бабушкам и дедушкам привозить. Возвращаются насовсем преимущественно те, кому все равно, где именно оставаться безработными. Либо те, чьим родителям безразлично, что этот диплом в Беларуси не признается.

Есть такая старинная песня о выпускнике, можно сказать, царской каторги. Бродяга там к Байкалу подходит, навстречу – родимая мать, рассказывающая блудному сыну, как они плохо живут на свободе. Вот и выясняется, что с каторги еще как-то можно сбежать, а вот убежать от царящего повсюду депресняка точно нельзя. Тогда – смысл побега? Бежать нужно туда, где лучше.

Президент выступал перед молодыми, талантливыми, знающими, в какой ситуации нужно промолчать, и успевшими съездить как минимум в Варшаву, Прагу и Берлин. Там, конечно, свои заморочки, но разницу эта молодежь сумела ощутить. Поэтому уговоры о том, что лишь в своей стране они будут хозяевами, на мой взгляд, на них никак не подействуют. Это разговоры не для бедных даже, а для нищих. Нищих духом. Быть хозяевами (скажу так!) депрессивной страны – значит, брать на себя ответственность за все в ней происходящее. А кто из них готов отвечать за постоянный рост цен в магазинах, за очереди в поликлиниках, за лекции по государственной идеологии, бессмысленные и беспощадные, в университетах? Единицы. Причем гораздо менее интеллектуально развитые, чем эти. «Троечники», говоря нашим языком. А этим такое даже предлагать смешно.

Во времена моей молодости была телевизионная реклама. Сидят люди на свежем воздухе, кофе пьют. Вдруг – слон затрубил. Оказывается, слоновье стадо поднялось в небеса и летит куда-то, слегка помахивая ушами-крыльями. И один из пьющих кофе – царь земли! – с тоской говорит:

– Иногда они возвращаются.

Не нужно призывать слонов или оставаться, или вернуться. Вернутся немногие – иногда. И те вернутся лишь тогда, когда поверят в необратимость перемен. Причем первый и главный признак необратимости перемен – свободные выборы, а не тот эрзац, который втюхивает Западу госпожа Ермошина. Западу уже все равно, что у нас будет, лишь бы жрать отсюда просили не слишком громко. А вот улетевших «слонов» они у себя с удовольствием примут, позволив им таким образом кардинально переменить их собственную жизнь к лучшему.

ДЫСКУСІЯ

# «Прысуд ім павінен быць адзін – як шалёным жывёлам…»

*«Азнаёміўся са спецвыпускам «Скажам НЕ смяротнаму пакаранню!», які выйшаў у «Народнай Волі» ў №79 за 5 кастрычніка 2018 года. Уявім сабе, што ў Някляева, Бяляцкага, Фядуты і той жанчыны, якая пасылала праклён пракурору, падчас выбуху ў метро загінулі, былі пакалечаны родныя людзі альбо працiўнікаў смяротнага пакарання закапалі ў лесе яшчэ жывымі дзеля таго, каб завалодаць іх маёмасцю. Здзяйсняюць такія злачынствы нелюдзі, і прысуд ім павінен быць адзін – як шалёным жывёлам.*

*Давайце ўявім, што такім злачынцам вынеслі прысуд 15 гадоў пазбаўлення волі ў турме. Праз 10 год за ўзорныя паводзіны яны могуць аказацца на волі. Сумленна працаваць яны ні ў якім разе не стануць, а будуць здзяйсняць такія ж, а можа, і больш жорсткія злачынствы.*

*Нашы праваабаронцы звяртаюцца да ЗША і заходніх краін са скаргамі, што ў нас адсутнічаюць правы чалавека. Маўляў, націсніце на прэзідэнта, урад, увядзіце санкцыі. Шаноўныя, звярніце ўвагу на тое, што адбываецца ў самай вялікай, самай моцнай і самай дэмакратычнай краіне ў свеце. Смяротнае пакаранне ў ЗША існуе. У паліцыі ёсць права прымяняць зброю супраць людзей у тым выпадку, калі паліцэйскаму нават толькі паказалася, што чалавек хоча зрабіць злачынства. І ўсё гэта паводле закона.*

*Чамусьці нашы праваабаронцы маўчалі, калі два прэзідэнты і першы міністр самых дэмакратычных краін па навеце знішчылі Ірак ды Лівію. Ці вядома нашым праваабаронцам, што ў гэтых краінах загінулі дзясяткі, калі не сотні тысяч ні ў чым не вінаватых людзей? Вы, напэўна, памятаеце, як дзяржаўны сакратар ЗША Колін Паўэл трос шклянкай з белым рэчывам і тлумачыў, што гэта хімічная зброя. А потым высветлілася, што гэта памылка. І колькі людзей загінула з-за яе?*

*А што адбывалася ў амерыканскіх турмах на тэрыторыі Ірака? Вязняў катавалі. Амерыканская жанчына ездзіла на іх вярхом, як на жывёлах. Вы думаеце, яе пакаралі за гэта? Не. Яе прызначылі на высокую пасаду ў ЦРУ. Нашы праваабаронцы могуць сказаць, што гэта крамлёўская ці лукашэнкаўская прапаганда. Не, родненькія. Гэтыя веды я чэрпаў з еўрапейскага канала тэлебачання «Еўраньюс».*

**Мікалай Сцяпанавіч ЖУРАЎЛЁЎ, Мінск.**

# «Пакаранне не мусіць быць звязана з чарговым забойствам!..»

*Рэдакцыя папрасіла беларускіх праваабаронцаў пракаментаваць гэты ліст.*

### Алесь БЯЛЯЦКІ:



– Гаворачы пра адмену смяротнага пакарання, я ні ў якім выпадку не апраўдваю людзей, якія здзейснілі злачынства. Яны мусяць несці пакаранне, злачынствы не павінны заставацца беспакаранымі. Але пакаранне не мусіць быць звязана з чарговым забойствам! У дадзеным выпадку забойства ў выглядзе смяротнага пакарання ставіць дзяржаву і ўсё грамадства на адзін узровень з забойцам-злачынцам, яно не з'яўляецца адэкватным пакараннем, таму што ў першую чаргу, як для мяне асабіста, парушаюцца маральныя прынцыпы.

Мы ўсё ж такі лічым сябе цывілізаваным еўрапейскім народам, а якраз нормы еўрапейскай маралі кажуць, што забіваць чалавека ў адпомсту негуманна. Гэта не адпавядае прынцыпам нашага жыцця, пра гэта гаворыць выразна і Праваслаўная царква, і Каталіцкі касцёл, пра гэта гаворыць у прынцыпе і наша разуменне каштоўнасці чалавечага жыцця, якое за апошнія стагоддзі і дзесяцігоддзі стала і ў нашым грамадстве больш значным. Гэта ў Савецкім Саюзе пры Сталіне чалавек быў пыл, і смяротнае пакаранне з'яўляецца яўным рудыментам гэтай сістэмы пакарання з савецкіх часоў. Але Савецкага Саюза няма ўжо чвэрць стагоддзя, наспелі і змены ў грамадстве. Улічваючы хібы судовай сістэмы, улічваючы маральныя моманты, відавочна, што прыйшоў час і Беларусі таксама ўводзіць мараторый на смяротнае пакаранне ці ўвогуле адмяніць яго.

### Андрэй ПАЛУДА:



– Варта адзначыць, што беларускія праваабаронцы падчас міжнародных сустрэч заўсёды падкрэсліваюць, што ў рэгіёне АБСЕ ёсць дзве краіны, у якіх захоўваецца смяротнае пакаранне, – Беларусь і ЗША. Мы і нашы калегі з Сусветнай кааліцыі супраць смяротнага пакарання гаворым і пра Кітай, Пакістан, Індыю, Японію, Іран і Саудаўскую Аравію. Але найперш варта прыбрацца ў сваёй хаце. Таму наша дзейнасць накіравана на ўнутраную сітуацыю, і мы вельмі хачам дамагчыся змен у Беларусі.

Дарэчы, асабіста знаёмы з чалавекам, віна якога не была да канца даказана, але ён 27 гадоў прасядзеў за кратамі. Затым справу перагледзелі, чалавека выпусцілі і выплацілі кампенсацыю. А ў нас расстрэльваюць праз тры з паловай месяцы, і разам з гэтым знішчаюцца рэчавыя доказы па крымінальнай справе.

### Валянцін СТЭФАНОВІЧ:



– Калі паглядзець даклады праваабарончых арганізацый, то яны вельмі шмат пісалі і пра ваенныя злачынствы ў зоне ваенных канфліктаў, і пра сітуацыю з наяўнасцю турмы ў Гуантанама, якая належыць ЗША. Дастаткова азнаёміцца з дакладамі арганізацыі «Міжнародная амністыя» на гэтую тэму. Што тычыцца фотаздымкаў, на якіх адлюстравана, як амерыканскія ваеннаслужачыя здымаліся на фоне пірамід з голых цел, такі факт быў. Вядома, што гэтая жанчына была асуджана і атрымала тэрмін зняволення. Але, паўтаруся, праваабаронцы не выступаюць ні на якім баку, а падыходзяць максімальна непрадузята і вывучаюць парушэнні правоў чалавека пры ваенных канфліктах. Асаблівая ўвага надаецца выпадкам катаванняў, усе праваабарончыя арганізацыі сыходзяць з таго, што свабода ад катаванняў з'яўляецца абсалютным правам, якое не можа парушацца нават падчас ваенных дзеянняў.

Што тычыцца наяўнасці ў ЗША смяротнага пакарання… Большасць штатаў не прымяняюць вышэйшую меру пакарання на працягу апошніх 10 гадоў. Напрыклад, літаральна ў гэтым месяцы амерыканскі штат Вашынгтон адмяніў смяротнае пакаранне, а з 2014 года там ужо дзейнічаў мараторый на выкананне яго. Такім чынам, Вашынгтон стаў 20-м штатам ЗША, дзе смяротнае пакаранне не існуе.

І, калі мы гаворым пра сусветныя тэндэнцыі ў адмене смяротнага пакарання, то гэта не пытанне супрацьстаяння Захаду і Усходу. Беларусь застаецца ў Еўропе апошняй краінай, якая адмаўляецца ўводзіць мараторый на смяротнае пакаранне.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Паводле меркавання прадстаўнікоў кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі», ліст чытача дэманструе пэўную павярхоўнасць, таму спадару М.С.Жураўлёву даслалі шэраг інфармацыйных матэрыялаў па тэме. Сярод іх буклеты «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання», кнігу-даследаванне «Смяротнае пакаранне ў Беларусі», у якой сабрана інфармацыя па праблеме пачынаючы з 1998 года і па сённяшні дзень, дыск з дакументальным фільмам «Убыл по приговору» і іншыя. Гэтыя матэрыялы могуць атрымаць і іншыя чытачы, даслаўшы замову на электронную скрыню* ***viasna96@gmail.com*** *альбо заярнуўшыся па гарадскім тэлефоне* ***394-63-11.***

СПЕЦАКЦЫЯ

## У Юрыя Варонежцава забралі пісталет

Да Форуму рэгіёнаў Беларусі і Украіны рыхтаваліся не толькі камунальшчыкі Гомеля, але і спецслужбы. Каб не здарылася ніякіх надзвычайных здарэнняў падчас правядзення розных афіцыйных і неафіцыйных мерапрыемстваў, яны на некалькі дзён пазбавілі зброі тых жыхароў, у якіх яна знаходзілася дома. У лік "рэпрэсантаў" трапіў і вядомы навуковец, грамадскі атывіст, былы дэпутат Вярхоўнага Савета СССР Юрый Варонежцаў. Міліцыя папрасіла яго здаць старэнькі газавы пісталет "Вальтэр".

**Мацвей ПУПЕЙКА.**

СУД ДЫ СПРАВА

## 7 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму

У судзе Першамайскага раёна Мінска скончыўся працэс над першым намеснікам старшыні праўлення Маладзечанскага райспажыўтаварыства. Эксчыноўнік абвінавачваўся па карупцыйным 430-м артыкуле Крымінальнага кодэкса.

Следствам было ўстаноўлена, што абвінавачаны дамовіўся з гендырэктарам адной з фірм, якая збіралася ўдзельнічаць у тэндары на пастаўку кацельнага абсталявання, што ўмовы конкурсу будуць складзены такім чынам, каб перамагла прапанова менавіта гэтай фірмы. Кошт абсталявання ацэньваўся ў 5,2 млрд недэнамінаваных рублёў.

У судзе прагучала, што з 2015-га па 2018 год абвінавачаны атрымаў хабараў на агульную суму 60.000 рублёў *"за спрыяльнае вырашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю, а таксама за забеспячэнне падрыхтоўкі аб'ектыўнага тэхнічнага задання і яго зацвярджэння"*.

Суд прыгаварыў эксчыноўніка да сямі гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны і апратэставаны, паведамляе прэс-служба Мінскага гарадскога суда.

СРАВНИМ

## Около 400 долларов оставил в Беларуси один турист



Всемирная туристская организация UNWTO опубликовала статистику о том, где и сколько денег тратят туристы по всему миру. Данные приведены за 2017 год. Есть в этом отчете и Беларусь. Наша страна, конечно, далека от лидеров и доходы от въездного туризма в Беларуси весьма скромные: за 2017 год, по данным UNWTO, иностранные путешественники потратили в нашей стране всего 790 миллионов долларов с учетом того, что страну посетили 2 миллиона туристов. При перерасчете на одного туриста получается 395 долларов на человека.

### А кто в лидерах?

| Страна | Сколько заработано на туризме в 2017 году, в долларах США |
|---|---|
| США | 211 миллиардов |
| Франция | 61 миллиард |
| Таиланд | 57 миллиард |
| Великобритания | 51 миллиард |
| Италия | 44 миллиарда |
| Австралия | 42 миллиарда |
| Германия | 40 миллиардов |
| Макао (специальный административный район Китая) | 36 миллиардов |
| Япония | 34 миллиарда |

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

РЭГІЁН

## У Слоніме просяць ўратаваць… ільвоў

*Грамадскае аб'яднанне "Мінолс" пачало збор подпісаў да ўлад Слоніма, адміністрацыі Гродзенскай вобласці і Міністэрства культуры з патрабаваннем прыняць неабходныя меры для ўратавання архітэктурнага помніка першай паловы XIX стагоддзя – палаца Пуслоўскіх у мікрараёне "Альбярцін" горада Слоніма.*

Актывісты занепакоены станам архітэктурнага помніка пачатку XIX стагоддзя, які дастаяў да нашых дзён, але знаходзіцца ў жахлівым стане і з кожным днём губляе сваю архітэктурную значнасць.

Віктар Марчык, адзін з актывістаў "Мінолс", заўважае: у Слоніме праводзіцца шмат забаўляльных мерапрыемстваў, магчыма, яны патрэбны, але ў той самы час улады павінны звярнуць увагу на палац у Альбярціне, які папросту развальваецца на вачах.

Асаблівую ўвагу Марчык звяртае на скульптуры львоў, што ляжаць перад уваходам у палац. Аўтарам гэтых скульптур, паводле сцвярджэння нашага суразмоўцы, быў вядомы італьянскі скульптар **Антоніа Канова** (1757–1822). Менавіта яго прозвішча было ўпісана Папам Піем VII у Залатую кнігу Капітолія з наданне яму тытула маркіза д'Іскіа. Яго працы дагэтуль знаходзяцца ў парыжскім Луўры і пецярбургскім Эрмітажы.

*"Магчыма, Антоніа Канова быў добра знаёмы яшчэ з Войцехам Пуслоўскім, уладальнікам палаца. Бо як можна інакш растлумачыць тое, што гэтыя львы апынуліся ў Альбярціне?* – выказвае здагадку Марчык. – *Яшчэ два венецыянскія львы стаялі каля ўваходу на тэрасу. Але яны, на жаль, да сённяшніх дзён у Альбярціне не захаваліся".*

Паводле слоў Віктара Марчыка, калі ўлады ўсур'ёз не возьмуцца за рэстаўрацыю палаца і скульптур, то ў хуткім часе помнік архітэктуры першай паловы XIX стагоддзя, якіх у Беларусі захавалася не так шмат, папросту рассыплецца.

**Аляксей МІХАЛЁЎ**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Ирина АБЕЛЬСКАЯ: «Мы не находимся в стороне от мировых тенденций…»



*Благодаря бурному развитию радиологии в Беларуси улучшаются демографические показатели. Об этом заявила главврач Республиканского клинического медицинского центра Управления делами президента, председатель правления Белорусского общества радиологов Ирина Абельская перед началом в Минске первого конгресса Белорусского общества радиологов.*

Она подчеркнула, что первый радиологический конгресс для белорусского здравоохранения очень важное событие.

*«По данным ВОЗ, 80% диагнозов сегодня врачи ставят с помощью радиологических исследований,* – цитирует Абельскую БелаПАН. – *Мы не находимся в стороне от мировых тенденций. Радиология у нас развивается очень бурно и за последние 10 лет колоссально шагнула вперед. С ее помощью благодаря ранней выявляемости заболеваний улучшаются демографические показатели – увеличивается продолжительность жизни, снижается смертность.*

На конгресс приехали врачи и ученые, представляющие крупные радиологические центры Австрии, Италии, России, Сербии, США, Турции, Украины, Франции и Хорватии.

УТОЧНЕНИЕ

## Сложные углеводороды, а не углеводы

Так, приносим читателям извинения и уточняем: в заголовке опубликованного в минувшем номере материала доктора экономических наук, профессора Бориса Желибы не по вине автора допущена опечатка. В действительности речь идет об **углеводородах**, из-за которых у Беларуси периодически возникают трения с Россией. Углеводы здесь не при чем.

РЭЦЭПТ

## Льготных лекаў стане больш

*Міністэрства аховы здароўя пашырыла пералік прэпаратаў, якія выкарыстоўваюцца для льготнага, у тым ліку бясплатнага, забеспячэння пры аказанні медыцынскай дапамогі ў амбулаторных умовах.*

Апошнім разам гэты спіс перагладаўся ў 2007 годзе. У адрозненне ад той рэдакцыі новы пералік асноўных лекавых сродкаў пашыраны на 39 новых пазіцый – лекаў як айчынных, так і замежнай вытворчасці.

*"У пералік у тым ліку ўвашлі антыкаагулянты – рываракасабан і дабігатран, базентан для лячэння лёгачнай гіпертэнзіі ў дзяцей, дарагія лекі для лячэння імунных захворванняў, камбінаваныя лекі для лячэння бранхіяльнай астмы, паркінсанізму, туберкулёзу і ВІЧ"*, – паведамляе прэс-служба ведамства.

Таксама ў ведамстве адзначаюць, што прынцып прызначэння і водпуску камбінаваных лекавых сродкаў з аптэк не змяніўся, акрамя фіксаванай урач мае права прызначыць свабодную камбінацыю лекавых сродкаў з прэпаратаў, якія ўваходзяць у пералік.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## Карміць у бальніцах будуць лепш?

*Камітэт дзяржаўнага кантролю ўнёс у Міністэрства аховы здароўя прапановы па карэкціроўцы заканадаўства, якое рэгулюе харчаванне пацыентаў у бальніцах.*

Як паведамляе прэс-служба КДК, прапановы ўнесены пасля праверак бальніц Віцебскай вобласці, падчас якіх *"былі знойдзены шматлікія парушэнні, якія сведчаць аб недастатковай рабоце кіраўнікоў устаноў аховы здароўя па павышэнні эфектыўнасці кантролю за арганізацыяй і якасцю харчавання пацыентаў"*.

Размова ідзе аб пераглядзе шэрагу нарматыўных актаў, якія тычацца бюджэтнага фінансавання харчавання пацыентаў, а таксама аб распрацоўцы Міністэрствам антыманапольнага рэгулявання і гандлю нарматыўна-тэхналагічнага дакумента для арганізацыі харчавання ў дзяржаўных установах.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

ПОЗИЦИЯ

## Независимый профсоюз горняков продолжит добиваться перерасчета пенсий

Министерство труда и социальной защиты отказалось поддержать предложение Независимого профсоюза горняков о перерасчете льготных пенсий. Речь идет о перерасчете пенсий за стаж работы после ее назначения.

Как известно, шахтеры и калийщики из-за работы во вредных условиях, имея определенный стаж, получают право на выход на пенсию на несколько лет раньше общеустановленного пенсионного возраста. Им начисляется так называемая льготная пенсия. Многие после этого продолжают и дальше трудиться на своих рабочих местах. В таком случае льготная пенсия, как сообщили в НПГ, выплачивается не в полном объеме. Из заработка работающих пенсионеров осуществляются все выплаты в ФСЗН, но при достижении людьми общеустановленного пенсионного возраста перерасчет пенсии не делают.

С предложением перерассчитывать пенсии с учетом стажа работы после ее назначения, НПГ обратился в Администрацию президента, оттуда обращение переслали в Министерство труда и социальной защиты. Предложение *«не может быть поддержано»*, – написано в ответе из министерства. Минтруда посчитало, что предлагаемая мера противоречит установкам Программы социально-экономического развития на оптимизацию пенсионных норм и расходов для поддержания финансовой стабильности пенсионной системы.

Лидер НПГ **Сергей Черкасов** сказал, что они не собираются опускать руки: *«По этому вопросу мы намерены обратиться к депутатам Палаты Представителей Национального собрания. Сейчас собираем подписи под обращением, на данный момент его уже подписали приблизительно 2000 человек»*.

По словам Черкасова, после того, как солигорские власти не разрешили провести пикет в защиту прав трудящихся, запланированный на 12 октября (райисполком сослался на то, что место занято другим мероприятием), НПГ вновь подал в райисполком аналогичную заявку на пикет уже на 26 октября.

Напомним, на пикете помимо вопроса о перерасчете пенсий хотят сказать «нет» тому, чтобы нормы декретов №29 и №5 были включены в Трудовой кодекс. НПГ считает, что подобные изменения в ТК законодательно закрепят элементы принудительного труда, ухудшат правовое положение трудящихся.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

РЭГІЁН

## Шлях скароціцца на адну гадзіну

*З 9 снежня Беларуская чыгунка адкрывае новы маршрут цягніка бізнес-класа па маршруце Гродна–Мінск.*

Шлях ад Гродна да Мінска зойме 4 гадзіны 8 хвілін. Самы хуткі цягнік, які зараз ідзе з абласнога цэнтра да сталіцы, трацiць на дарогу 5 гадзін 7 хвілін.

Пакуль дакладна не вядома, якія прыпынкі будзе рабіць цягнік. Згодна з дакументацыяй БЧ, цягнік бізнес-класа спыняюцца ў гарадах з насельніцтвам больш за 100 тысяч чалавек. На адрэзку Гродна–Мінск два такія гарады – Ліда і Маладзечна.

Мяркуецца, што на дадзеным маршруце будзе выкарыстоўвацца маторвагонны рухомы састаў. Хутчэй за ўсё, гэта будуць дызель-цягнікі рыжскай вытворчасці ДР16, якія раней выкарыстоўваліся на маршруце Гродна–Вільнюс.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ГУЧНЫ ПРАЦЭС

# На лаве падсудных – былы галоўны ўрач

*У Ленінскім судзе Гродна пачаўся судовы працэс над былым галоўным урачом Гродзенскага абласнога клінічнага шпіталя Святаславам Савіцкім. Яго абвінавачваюць у крадзяжы шляхам злоўжывання ўладай і службовымі паўнамоцтвамі ў асабліва буйных памерах і ў перавышэнні ўлады альбо службовых паўнамоцтваў. Часткова Савіцкі прызнае сваю віну.*



### Даваў загады схаваць сляды выбуху

На першым судовым пасяджэнні пракурор зачытала абвінавачанне Савіцкаму. Крымінальная справа супраць яго была ўзбуджана пасля таго, як у 2013 годзе ў памяшканні хірургічнага аперацыйнага блока пры выкананні рамонтных работ адбыўся выбух.

З абвінавачання вынікае, што рабочыя выкарыстоўвалі светлавую пушку і газавы балон. У выніку таго, што не выконваліся правілы бяспекі, у памяшканні ўтварылася газа-паветраная сумесь і адбыўся выбух. Двое рабочых атрымалі сур'ёзныя траўмы, ад якіх пазней памерлі. Следства выявіла, што адзін з рабочых быў у нецвярозым стане.

Савіцкі схаваў гэты факт ад праваахоўных органаў і вышэйстаячых арганізацый, з тым каб пазбегнуць агалоскі. Больш за тое, з зачытанага абвінавачання вынікае, што Савіцкі даваў незаконныя даручэнні сваім супрацоўнікам з мэтай схаваць сляды выбуху. Ён загадаў прыбраць з памяшкання светлавую пушку, газавы балон. Пракурор канстатавала, што ў выніку гэтага частка доказаў па крымінальнай справе аб парушэнні правіл аховы працы, з-за чаго двое рабочых загінулі, была знішчана. А таксама не былі прыняты меры, каб своечасова шпіталізаваць пацярпелых.

Дзеянні Савіцкага пракурор кваліфікавала па ч.2 арт.424 КК Беларусі (злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі).

### Абвінавачваецца ў прысваенні больш як 40 тысяч рублёў

Расследаванне гэтай крымінальнай справы працягвалася больш за пяць гадоў. Падчас следства ўспылі факты парушэнняў у фінансавым справаводстве. Пракурор канстатавала, што Савіцкі выдаваў загады аб прэміраванні супрацоўнікаў адміністрацыйна-ўпраўленчага апарату. Прычым рашэнні аб прызначэнні прэмій прымаў толькі сам, свае загады не ўзгадняў ні з прафсаюзамі, ні з вышэйстаячымі арганізацыямі і выплсваў іх адным і тым жа супрацоўнікам. Пракурор зачытала некалькі такіх загадаў Савіцкага і ў выніку назвала суму больш як 40 тысяч рублёў.

Гэтыя дзеянні былога галоўнага ўрача пракурор кваліфікавала па ч.3 арт.426 КК Беларусі (перавышэнне ўлады альбо службовых паўнамоцтваў).

### Віну прызнае часткова

На пытанне суда, ці прызнае Савіцкі сябе вінаватым, ён адказаў, што віну прызнае толькі па артыкуле 424. Што датычыцца абвінавачання па артыкуле 426, іх ён не прызнаў.

Пракурор прапанавала далей дапытаць абвінавачанага, затым дапытаць сведак і абвясціць матэрыялы справы. Савіцкі і яго адвакат прапанавалі іншы парадак: абвясціць матэрыялы справы, дапытаць сведак і пасля гэтага дапытаць падсуднага. У адваротным выпадку Савіцкі адмаўляўся даваць паказанні.

Суд пагадзіўся з парадкам правядзення судовага разбіральніцтва, прапанаваным Савіцкім і яго адвакатам. Судовы працэс працягваецца.

***ДАВЕДАЧНА***

*Святаславу Савіцкаму 56 гадоў. Галоўным урачом Гродзенскага абласнога клінічнага шпіталя быў прызначаны ў 2002 годзе. Да гэтага працаваў у раённых шпіталях. Зараз працягвае працу на адной з кафедраў Гродзенскага дзяржаўнага медуніверсітэта. Знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе.*

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Зміцер ПАЛІЕНКА:

# «З калоніі мяне вывезлі на машыне «хуткай дапамогі»

*На гэтым тыдні выйшаў на волю сацыяльны актывіст, якога праваабаронцы прызналі палітычным зняволеным.*




Нагодай для крымінальнага пераследу стаў удзел Зміцера Паліенкі ў мірным сходзе "Крытычная маса", які адбыўся 29 красавіка 2016 года ў Мінску і быў гвалтоўна спынены міліцыяй.

*"Акцыя тады яшчэ не пачалася, а да мяне ўжо падышоў адзін чалавек у цывільным і сказаў: "Лепш адсюль круці педалі"*, – успамінае Зміцер. – *Але, шчыра кажучы, думаў, што максімум, які мне могуць даць за тое мерапрыемства, – гэта "суткі" ў следчым ізалятары на Акрэсціна. Калі ў РУУС прыйшоў высокі начальнік, паказаў на нас з Канавалавым пальцам і сказаў: "На гэтых узбуджайце крымінальную справу" – вось гэта быў шок"*.

Пра знаходжанне ў калоніі Паліенка кажа, што *"чалавек можа прызвычаіцца да любых умоў"*.

*"У той жа час статус палітвязня не даваў адміністрацыі калоніі мяне, што называецца, "прыдушыць"*, – дадае Зміцер. – *Хаця была верагоднасць таго, што маглі "раскруціць" за розныя парушэнні па 411-м артыкуле Крымінальнага кодэкса ("злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, што выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі"). Але, паўтаруся, вакол маёй персоны ў СМІ заўсёды быў грамадскі рэзананс, а таму, відаць, да гэтага і не дайшло"*.

Суразмоўца адзначае, што за час зняволення правёў у штрафным ізалятары каля месяца.

*"Аднойчы, ведаючы, што я прытрымліваюся анархісцкіх поглядаў, мяне пасадзілі ў ШІЗА ў адну камеру з неанацыстам*, – кажа актывіст. – *Думалі, напэўна, што пачнём высвятляць адносіны, учынім бойку, а значыцца, можна будзе яшчэ больш жорстка пакараць. Але мы абодва ў камеры разумелі, дзеля чаго нам арганізавалі такую сустрэчу, а таму на правакацыю не паддаліся. А ўвогуле, у калоніі можна было жыць. Там даволі нядрэнная бібліятэка, прыходзілі газеты "Народная Воля", "Новы час", "Свабодные новости", так што можна было пачытаць і незалежную прэсу. З ежай таксама сітуацыя не крытычная. Трэба сказаць, што мне шмат людзей пісалі лісты са словамі падтрымкі. Не толькі з Беларусі, а і з Германіі, Аўстрыі, Францыі, Літвы…"*

На волю Паліенку выпускалі даволі незвычайна.

*"У 4 гадзіны раніцы вывезлі на вакзал на машыне "хуткай дапамогі". Відаць, не хацелі, каб ля калоніі мяне сустракалі сябры*, – пракаментаваў Зміцер такія паводзіны адміністрацыі калоніі. – *Але для мяне гэта ўсё ўжо ў мінулым. Зараз трэба шукаць працу, хаця і ад грамадскай дзейнасці адмаўляцца не збіраюся"*.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

*Фота: svaboda.org.*



100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



## Безназоўны помнік

У Курапатах у аўральным парадку ідзе праца па ўсталяванні помніка. Урадавае рашэнне аб мемарыялізацыі ўрочышча было прынята яшчэ трыццаць гадоў таму, прыкладна столькі ж часу тэма помніка перыядычна дыскутавалася ў грамадстве. І вось за нейкія пару месяцаў і мастацкі конкурс прайшоў, і сродкі знайшліся, і раскопкі пад наглядам археолагаў на месцы помніка былі праведзены, і дарожкі пракладзены, і тэхніка тут як тут, і ў рабочай сіле недахопу няма.

Зразумела, улада дала адмашку. Зразумела, трыццацігадовая Курапацкая вайна ўвесь час падпсоўвала рэпутацыю тае ж улады. Зразумела, і народ наш памяркоўны стаміўся ад грамадзянскага супрацьстаяння там, дзе павінен панаваць малітоўны спакой. Згадайма, гадамі весткі з Курапатаў нагадвалі франтавыя зводкі: то кружная дарога ў расстрэльны лес угрызалася, то нехта падпальваў намёт з абаронцамі, то гэтак званую лаўку Клінтана хтосьці кувалдай разбіваў, то людзі пад экскаватар клаліся, не пускаючы ў ахоўную зону чарговы "бульбаш-хол".

На жаль, не назіраецца поўнай згоды бакоў і непасрэдна перад усталяваннем помніка. Адным не падабаецца месца, выбранае Федэрацыяй прафсаюзаў (чамусьці ён улада даручыла ролю заказчыка і куратара праекта). Другіх выводзіць з сябе сам факт чужароднага ўмяшання ў Народны мемарыял. Трэціх не задавальняюць дарожкі-бруканкі: маўляў, на высокіх абцасах да помніка будзе не дайсці.

Пры гэтым ніхто не звяртае ўвагі на адну акалічнасць. Істотную, на мой погляд. Сам помнік візуальна *ніяк не выяўляе*, што мае сімвалізаваць памяць бязвінна знішчаных у часы сталінскага тэрору. Як гэта, напрыклад, паказана на вядомым нью-ёркскім помніку, прысвечаным ахвярам Катыні. Памятаеце, там проста на пастаменце з недвухсэнсоўным надпісам *Katyń 1940* польскі палонны салдат гіне ад савецкага штыка.

У курапацкім помніку няма ніякай ваяўнічасці (і не трэба), з выгляду ён нагадвае хрысціянскую званіцу. Але па кім зазвоняць званы з той званіцы?

Адзін з аўтараў помніка скульптар Сяргей Агінаў патлумачыў, што на ім будуць адліты ў метале словы "маці, сын, бацька і дзед, бо ўсе ахвяры палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў былі нечыімі роднымі".

І вось гэтая відавочная нейтральнасць (заданне заказчыка?) мемарыяльнай кампазіцыі выклікае пэўныя падазрэнні. Паколькі неадноўчы на самым высокім узроўні ў нас гаварылася, што ў Курапатах не толькі НКВД, але і немцы расстрэльвалі савецкіх грамадзян.

У святле такіх выказванняў лёгка ўявіць, як перад адкрыццём помніка галоўны прафсаюзнік Міхаіл Орда прышрубуе да яго шыльдачку з тэкстам пра зверствы гітлераўцаў. А міліцэйскі міністр у гэтак шанаваный ім форме энкавэдэшніка перарэжа чырвоную стужачку.

І ўсё. З той хвіліны Курапаты з сімвалічнай Галгофы, дзе камуністычная Масква мэтанакіравана знішчала нацыянальную беларускую эліту, ператворацца ў яшчэ адну брацкую магілу ахвяр вайны, якіх сотні па ўсёй Беларусі. Хай сабе і з пэўнымі агаворкамі пра сталінскія рэпрэсіі і ворагаў народа, з якімі яшчэ разбірацца трэба…

Разбіраліся, пакуль не позна, трэба з тым безназоўным помнікам, які ўлада цягне ў Курапаты і які пры жаданні можна трактаваць як заўгодна. А тая паспешлівая рашучасць, з якой усё робіцца, сведчыць аб адным – помнік будзе ўсталяваны. Любым коштам. Калі спатрэбіцца – пад аховай танкаў.

Аднак неназваная падзеі для гісторыі не існуе. Бязмоўны, безназоўны помнік мусіць усё ж неяк называцца, інфармаваць пра галоўную сваю сутнасць. Неабходна, каб мемарыял нейкім чынам паведамляў, *хто, калі* і *кім* расстраляны ў Курапацкім лесе. Дзе ляжаць тысячы нашых суайчыннікаў, дзе ўпершыню ў гісторыі чалавецтва пісьменнікаў расстрэльвалі дзясяткамі за ноч.

Не мітынгуйце на магілах! – яшчэ нядаўна заклікалі нас галоўная ў краіне газета і прапагандысты БТ. А Міндукацыі выкідвала тэму сталінскіх рэпрэсій са школьных падручнікаў – каб не траўмаваць дзіцячую псіхіку… І што – апошнім часам нешта кардынальна змянілася ў нашай краіне? Адкрыты архівы КДБ? На афіцыйным узроўні асуджана злачынная палітыка камуністычнай партыі? Названы імёны катаў? Хтосьці пакаяўся?

Нічога гэтага не адбылося. Таму яшчэ большае падазрэнне выклікае безназоўны помнік у Курапатах ад імя дзяржавы, якая трыццаць гадоў змагалася там з жывымі і мёртвымі. І мёртвыя для яе яшчэ больш небяспечныя, бо іх і ў турму не пасадзіш, і не застрашыш штрафамі. Адзіны спосаб застаецца – не называць імёны, надрапаўшы на метале: *"маці, сын, бацька, дзед"*…

Але пахаваныя ў Курапатах не хочуць быць чыёйсьці безназоўнай раднёй. Ды і ў сумненых гешэфты з уладай уступаць ім патрэбы няма. Ім патрэбна зусім няшмат – праўда і памяць. Як сказана ў паэта Алеся Чобата: *"Нам цяпер, як раней, валіць здрада пад дых, / але мёртвым сораму й страху не маюць, / нашы мёртвыя помняць пра нашых жывых, / нашы мёртвыя нашых жывых узнімаюць"*.

Мы павінны пачуць іх галасы. Мы павінны назваць іх паймення. Яны чакаюць. Яны з таго свету назіраюць за намі ў перыскопы курапацкіх крыжоў…

СКАНДАЛ

### Пагражаюць судом…

Днямі кіраўнік Федэрацыі хакея Беларусі **Генадзь Савілаў** заявіў, што за 15 апошніх гадоў хакейны клуб **"Юнацтва-Мінск"** не падрыхтаваў для КХЛ і НХЛ ніводнага хакеіста. Гэта абурыла кіраўніцтва "Юнацтва". "Клуб заяўляе, што выказванне Савілава не адпавядае сапраўднасці і дыскрэдытуе "Юнацтва" і яго спартыўную школу. Рыхтуецца афіцыйны зварот у Федэрацыю хакея Беларусі з патрабаваннем абвергнуць распаўсюджаную інфармацыю. Інакш мінскі клуб звернецца ў суд з іскам аб абароне сваіх законных правоў.

З ЮБІЛЕЙНАЙ НАГОДЫ

# Пра бацьку без выдумкі

Сёння, 26 кастрычніка, майму тату, Мікалаю Абрамавічу, спаўняецца 90 гадоў. Шмат чаго – і горкага, і радаснага – зведаў ён цягам жыцця. У зусім малалетнім узросце застаўся без бацькі. Апроч яго ў сям'і было яшчэ чатыры дачкі, і ўсе клопаты пра дзяцей леглі на плечы маці, Марфы Яўсееўны. Так што да працы быў прывучаны змалку. Не сядзіць і не ляжыць тата і па сённяшні дзень. Ад раніцы і да вечара завіхаецца ў сваёй сталярцы.

Некалькі эпізодаў з жыцця бацькі я прапаную чытачам «Народнай Волі». Яго 90-годдзе разам з ім адсвяткуем мы – дачка і два сыны, дзве ўнучкі і два ўнукі, тры праўнучкі і чатыры праўнукі.


Мікалай Абрамавіч з сынам Анатолем і ўнукам Мікітам. Лістапад 2016 г.

### Дзевяць літар

Пры ўездзе ў нашу вёску, у нейкай сотні метраў ад чыгуначнага пераезду, над асфальтавым шляхам да нядаўняга часу, пакуль не замянілі на іншыя, навісалі нацягнутыя на металічныя слупкі, што былі зроблены ў выглядзе стылізаваных жытнёвых каласкоў, дзевяць выпіленых драўляных літар, якія складалі слова ПАТАПАЎКА.

Некалі, праводзячы мяне з дому на цягнік, бацька кіўнуў:

– Мая работа, – і не без гонару дадаў: – Па тры рублі за кожную літару заплацілі...

На той час, калі ён атрымліваў у саўгаснай сталярцы 60 рублёў, а бохан хлеба каштаваў 14 капеек, гэта і сапраўды былі немалыя грошы. Хоць наўрад ці імі вымяраўся бацькаў гонар.

### «Малайчына, сынок!»

Калі бацька вучыўся ў школе, то нярэдка здаралася так: пойдзе раніцай з дому, а на ўроках няма. То ж, казаў мне неяк, рэзаліся ў карты ў хаце, што па суседстве са школай. А вось з заняткаў жа вяртаўся з усімі разам.

Аднойчы настаўніца напісала запіску ягонай маці: чаму сын не наведвае школу? Аднакласнік, якому тая даручыла яе занесці, махаючы пасланнем настаўніцы перад бацькавым носам, пахваліўся: ох, уляціць, маўляў, табе, сябрук, ад маці на арэхі! Бацька прыціснуў пасланца і адабраў запіску.

Дома, дэманструючы яўнае раўнадушша, падаў яе маці:

– Во, настаўніца перадала.

Бабуля Марфа была непісьменнай, таму папрасіла, каб сын сам і прачытаў, што там напісана.

«Паважаная Марфа Яўсееўна! – ледзьве не заплюшчыўшы вочы, пачаў выдумляць той. – Вялікі дзякуй за выхаванне сына...» I далей у гэткім жа духу.

– Малайчына, сынок! – пахваліла бабуля майго бацьку. – Так і далей вучыся.

I бацька вучыўся… Як і дагэтуль.

### Як конь

«Наш бацька жадны на работу, – казала заўсёды маці. – Як той конь, жылы напінае».

I насамрэч: колькі памятаю, дык і сена на трактар бацька клаў столькі, што аж электраправад на вуліцы чапляла, і дроў на воз грузіў – ледзьве конь цягнуў. А дзе якая яміна, то яшчэ і самому ў драбіны добра-такі ўпірацца трэба было.

Ён, прынамсі, і сам часам прызнаваўся, прыехаўшы з лесу: «О то наклаў сёння вазок! Сам і дровы вёз, і калёсы з канём цягнуў».

Не засмучаўся, а такім чынам хваліўся, мабыць, бо ў наступны раз усё паўтаралася наноў, а то яшчэ і з большай «жаднасцю».

### Перакошаная брамка

Бацька зрабіў суседу брамку. Але той пад такім нахілам укапаў слупы, што навешаная на іх брамка выглядала перакошанай.

Бацька, убачыўшы гэта, перастаў нават на працу хадзіць паўз суседаву хату – дабрацца да сваёй сталяркі мог і праз другі канец вуліцы.

I ўсё ж аднойчы не вытрымаў:

– Пайду, скажу ўрэшт, хай перавесіць. А то, крый Божа, падумаюць, што гэта я такую перакошаную брамку зрабіў.

I пайшоў. I разам перакапалі тыя слупы. I брамку на іх навесілі як трэба.

...Цяпер бацька зноў ходзіць на працу звычным шляхам.

### Тры дні – тры паўлітры

Бацька і Восіп працуюць у саўгаснай сталярцы.

Калі даюць сенакосны надзел, то Восіпу ў помач выпраўляюцца два дарослыя сыны, а бацька (тады мы з братам былі малыя) шоргае касой адзін. Праўда, зазвычай спраўляецца за дзень. Яшчэ і абед, які маці сабрала (вараныя яйкі, сала, гуркі-памідоры ды колькі цыбулін), прывязе некранутым дахаты. Бывае, тая запытае, чаго не з'еў, а бацька ў адказ:

– Ай, узяў быў разгон, то пра валізку тваю ўспомніў, хіба як пару пракосаў засталося. Што расседжвацца, вырашыў. Лепей хутчэй закончу, а дома ўжо чаго гарачага пасёрбаю...

А вось Восіп – наадварот. Прынамсі, такі ж самы надзел ён і два сыны косяць тры дні.

– А як не касіць, – тлумачыць бацька, – калі ім па паўлітры самагонкі да абеду дае Восіпава Ганна. А тры дні – гэта ўсё ж не адна паўлітра, а тры. Яны, зрэшты, і пяць дзён касілі б, ды перад людзямі ўжо сорамна...

### «Па прамой не трэба»

Бацькі закалолі свінчо. Мне па свежаніну прыехаць не выпала, і яны рашылі даставіць «маё» сцягно ў Мінск самі.

Прыехалі, не папярэдзіўшы. Ад мяне ж ведалі, што дабрацца на «Захад» можна 44-м тралейбусам або на метро да станцыі «Пушкінская».

Паехалі на метро. Але на «Кастрычніцкай» не пераселі на другую лінію, а калі спыталі, была ўжо «Плошча Якуба Коласа». Замест таго, каб вярнуцца назад, выйшлі наверх.

– Ай, паедзем на таксі, – прапанаваў бацька. – Так надзейней будзе.

– Куды вам? – пацікавіўся таксіст.

– На вакзал, а потым па лініі 44-га тралейбуса на «Захад», – патлумачыў бацька.

– Навошта тады на вакзал, калі мы можам і адсюль па прамой паехаць? – не зразумеў таксіст.

– Не трэба нам па прамой, – не пагадзіўся бацька. – Па прамой мы ўжо са старой праехаліся на метро. А ад вакзала я ведаю, куды ехаць, – і як бы супакоіў: – Так што не хвалюйцеся, пакажу.

### У адзін і ў наступны

Бацька ніколі не ведаў, у якім класе мы вучыліся. Пазней маці распавядала нам, ужо дарослым:

– То ж запыталі неяк мужчыны ў сталярцы: «Коля, у які гэта клас твае ходзяць?» Бацька, ведаючы, што паміж мной і сястрой розніца год, падумаў і кажа: «Значыць, так. Большы, Толік, – у адзін, а меншая, Галя, – у наступны».

А што: праўду сказаў. Падумаеш, дакладнай лічбы не назваў...

### Ці грэх працаваць?

Ой, як бацька не любіў святаў! А іх, царкоўных, выпадала нямала. I хоць маці не была занадта набожнай, але са святамі лічылася. «Не намі заведзена, – казала, – не нам і парушаць заведзенае». I прасіла пры гэтым бацьку не грукаць у сваёй майстэрні. А як не грукаць, калі той без справы склаўшы рукі і хвіліны пасядзець не мог. Грукаць, праўда, не грукаў, а вось цішком рубанкам пацягнуць – гэта як зазвычай. Пацягне разок-другі, а вухам усё прыслухоўваецца, ці не рыпнулі дзверы: крый Бог, калі жонка ўчуе!

А потым бурчаў: «То ж напрыдумлялі свят розных для гультаёў і п'яніц. Бачыш, гарэлку жлукціць, аказваецца, няма граху, а калі працуеш – дык грэх».

### Канькі

Бацька змайстраваў мне, малому, канькі. Драўляныя, з замацаваным знізу стальным дротам замест палазоў. Між іншым, сапраўдных, купленых у краме канькоў тады на нашай вуліцы яшчэ ні ў кога не было. Як, прынамсі, і самаробных.

То ж як зайздросцілі хлапчукі, калі я ў іх на вачах адзінока, хай сабе і няўмела, слізгаў па лёдзе на бліжэйшай крыху прыцярушанай снегам копанцы.

А назаўтра да бацькі прыйшла суседка Вольга і папрасіла, каб зрабіў такія канькі і для яе Колькі. «Звёўся хлопец, аж слязамі заліваецца», – патлумачыла.

Праз дзень канькі былі і ў Колькі. Толькі вось, прыйшоўшы дамоў і злосна шпурнуўшы канькі ў кут, слязамі на гэты раз заліваўся я. Адтаго, што страціў перавагу, якую дагэтуль меў перад сябрамі.

Маці, памятаецца, добра-такі тады мяне адлупцавала. А бацька маўчаў. Здаецца, ён усё зразумеў.

### Адно дрэнна...

Атрымалі ў Мінску кватэру.

Сядзім за сталом. Праз нейкі час бацька падняўся, вышмыгнуў у залу. Я выйшаў следам.

– Ты, можа, тат, у прыбіральню хочаш?–пытаюся.

– Можна б было, – згаджаецца.

– Дык схадзі.

– Але ж там людзі сядзяць, – ківае ў бок кухні бацька.

Потым яшчэ і маці дома казаў: «Усё ў той гарадской кватэры добра. Адно дрэнна – прыбіральня побач з кухняй».

### Хто ўкраў?

У бацькі ўвесь двор, нібыта старажытная крэпасць, «запрамавуголены» рознымі прыбудовамі. Зачыніў знутры на засаўку браму на вуліцу і на дзве зашчапкі выходныя дзверы на агарод, а на астатнія надворныя прыбудовы і замкоў вешаць не трэба – паспрабуй пералезь праз дах.

Пералезлі – і конскую вупраж спёрлі: хамут, сядзёлку, аброць…

– О то ж дурань стары! – не можа дараваць сабе бацька. – I з вуліцы зачыніўся, і з агарода. А лесвіцу на ўбітыя ў сцяну штыры з таго боку павесіў. Не дапетрыў… Зладзеі знялі яе, прыставілі ды так і залезлі. А назад выйшлі праз агарод.

Неўзабаве з'явіўся адзін:

– Дзядзька, давай бутэльку, скажу, хто збрую ўкраў.

– Аднаго я ведаю, – змікіціў бацька.

– ?!

– Гэта ты. Дык ідзі і скажы свайму хаўрусніку: хай прынясе. А калі хацелі выпіць, то прыйшлі б, як людзі, і папрасілі па-добраму…

### Прагрэс

Божа літасцівы, гэта ж на вяку аднаго пакалення так сягнуў прагрэс! Памятаю, як бацька здзіўляўся, калі загаварыла радыё. Усё не мог уцяміць, як гэта па дроце можна перадаць голас. Маўляў, чалавек сядзіць і гаворыць у самой Маскве, а чуваць ажно тут, у вёсцы. А потым правялі электрычнасць, з'явіўся тэлевізар...

Мінулым летам быў я ў вёсцы, выйшаў пакурыць, а мабільнік пакінуў у хаце.

Раптам выбягае бацька з тэлефонам у руцэ.

– Табе тэлефануюць, – кажа.

Бяру мабільнік, націскаю на кнопку прыёму сігнала і, яшчэ не падносячы да вуха, абвяшчаю:

– Гэта Галя, сястра.

– А ты адкуль ведаеш? – не цяміць бацька. – Яшчэ ж не слухаў.

– А тут вунь, – паказваю на экран, – напісана.

Бацька ўзіраецца ў надпіс «Галя» – і дзіву даецца:

– Гэта ж трэба да такога дадумацца! Во дык тэхніка, ядры яе корань! Не толькі распазнае, хто тэлефануе, а нават імя піша...

Адкуль бацьку ведаць, што тут да чаго.

### Лазня для жанчын

Тэлефаную ўвечары ў вёску бацьку, пытаю, чым ён там займаецца.

– А во пасля абеду лазню прапаліў ды ўсіх жанчын з нашай вуліцы памыў. I Надзьку, і Таню, і Тамарку, – адказвае бацька.

– Як гэта? – не разумею я.

– Не, сынок, яны самі мыліся, – развейвае маё недаўменне бацька. – Я толькі наказаў кожнай, што лазня гатова. А там, маўляў, разбірайцеся ўжо, хто за кім пойдзе...

А я згадваю, што заўтра 8 Сакавіка, і здзіўляюся: то ж прыдумаў бацька такі падарунак жанчынам да іх свята зрабіць! А ці дадумаўся б я да такога?

### Рэўнасць

Праз колькі месяцаў пасля смерці маці (ці то не на паўгода?) мы, дзеці, – сястра, брат і я – сабраліся ў бацькоўскай хаце.

Ведаючы, як бацьку адзінока, пытаемся:

– А ці ходзіш ты куды гуляць?

– А куды тут хадзіць? – пацепвае плячыма бацька.

– Што, хіба людзей на вуліцы няма?

– Якія тут людзі? Адны жанчыны...

– Дык да жанчыны б якой схадзіў.

– Ага, да адной сходзіш – другая зараўнуе.

– Ого! – прыцмоквае языком брат. – Мне б, бацька, дажыць да тваіх васьмідзесяці трох, ды каб мяне яшчэ жанчыны раўнавалі.

### Лаянка – не для дзяцей

Ніколі не бачыў, каб бацькі калі лаяліся. Хоць, вядома ж, у жыцці ўсялякае здаралася. I без лаянак наўрад ці абыходзілася. Аднак маці з татам ніколі не дапускалі, каб сведкамі гэтага былі мы, дзеці.

Не аднойчы ж было: ускочым мы з вуліцы ў хату і бачым, што бацькі моўчкі стаяць паводдаль адзін насупраць аднаго. Адначасова зірнуць на нас, бы ў нечым правініліся, а потым бацька, звычайна першым парушаючы зацягнутую паўзу, хутчэй нам, чым маці, скажа, кіўнуўшы на дзверы:

– Пайду карове сена крыху з сенніка ўкіну.

Або:

– Пайду пагляджу, ці паелі свінні.

Гэтае бацькава «пайду» было як выйсце з тупіковага становішча, калі пры дзецях ні лаяцца больш не маглі, ні маўчаць. Праўда, «расшыфраваць» падобную сітуацыю я змог нашмат пазней, калі сам стаў дарослым. Ды вось адно думаю: а ці заўсёды нам з жонкай хапала такой мудрасці, як некалі нашым бацькам?

**Анатоль ЗЭКАЎ.**

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК.

### Зламалася мультыварка

*У мультыварцы з'явіліся тэхнічныя праблемы: перастала рэагаваць на націсканне кнопак. Жывём у рэгіёне, а куплялі тавар у Мінску. Ці можна здаць тэхніку ў рамонт у бліжэйшы сэрвісны цэнтр? Ці не станем пасля гэтага менш абароненымі? Калі тавар зламаўся не па нашай віне і яго нельга адрамантаваць, ці зможам мы потым патрабаваць з магазіна грошы ці абмен?*

**Віктар ЗДАНОВІЧ, г.Шчучын.**

– Звярніцеся з пісьмовай прэтэнзіяй да прадаўца. Дакладна акрэсліце свае патрабаванні па замене няякаснага тавару. У любым сэрвісным цэнтры зрабіце акт тэхнічнага абследавання мультываркі на прадмет істотнага недахопу. I тады ўжо зможаце законна патрабаваць абмену тавару ці вяртання грошай.

### Фільтр вады не патрэбны

*Патэлефанавалі на хатні тэлефон з нейкай фірмы, прапанавалі ўстанавіць фільтр вады. Муж падпісаў дамову, набыў у крэдыт фільтр, але яго яшчэ не ўстанаўлівалі. Сябры нам параілі адмовіцца ад набыцця гэтага тавару. Ці можам мы ад яго адмовіцца?*

**Святлана КОРЗУН, г.Слуцк.**

– Можаце. Заяўляйце прэтэнзію і скасоўвайце крэдытную дамову. Калі спатрэбіцца юрыдычная дапамога, можаце звярнуцца да спецыялістаў па абароне правоў спажыўцоў.

### Вярнуць туш для веек

*Купіла туш для веек, але яе мне прадалі з вітрыны без упакоўкі і адкрытую. Ці можна вярнуць грошы ці абмяняць тавар?*

**Аліна, Мінск.**

– Касметыка адносіцца да той групы тавараў, якія не вяртаюцца. Нягледзячы на тое, што тавар быў без упакоўкі.

### Набылі праблемны веласіпед

*У практычна новым веласіпедзе, які купілі на рынку, выявілі, што ў рулі не хапае ўсіх падшыпнікаў. Звярнуліся ў фірму, там сказалі, што гэтая дробязь каштуе капейкі, але абяцалі прывезці, калі будзе час. Месяц не вязуць. Што нам рабіць у такой сітуацыі?*

**Валянцін СТАСЕВІЧ, г.Хойнікі.**

– Заявіце пісьмовую прэтэнзію ў адрас прадаўца аб ліквідаванні недахопу на працягу 7 дзён. Дашліце прэтэнзію заказным лістом з паведамленнем.

### Грузчыкі падрапалі халадзільнік

*Набылі халадзільнік у інтэрнэт-краме. Яго прывезлі, на пляцоўцы ля ліфта я яго агледзела: быццам усё было нармальна. Паставіла подпіс аб дастаўцы якаснага тавару. А ўжо пазней заўважыла на халадзільніку драпіны. Відаць, падрапалі аб дзверы, калі заносілі ў кватэру. Што мне зараз рабіць? Да каго звяртацца?*

**Алена КАПЦЮХ, Магілёў.**

– Па-першае, спажывец перад падпісаннем дакументаў павінен уважліва праверыць тавар, які купляе. Але, калі ўжо так атрымалася, заявіце пісьмовую прэтэнзію.

### Няякасная цацка

*У магазіне набыла завадную цацку, яна гадзіну працавала, а затым зламалася. Чэк застаўся, толькі парушана цэласнасць упакоўкі. Ці абавязаны мне вярнуць грошы?*

**Марына МАЛІНОЎСКАЯ, г.Добруш.**

– Абавязаны, таму звяртайцеся з дакументамі ў магазін.

### Не тыя параметры…

*Набылі ўнітаз. Сантэхнікі сказалі, што такі не падыходзіць па нейкіх параметрах. Ці можна яго вярнуць назад?*

**Аляксей СВІРКА, Мінск.**

– Так. Вярніце ў магазін і купіце іншы.

РЭЗАНАНС

# Колькі можна ісці дарогай бяспамяцтва?

Прачытаў у «Народнай Волі» за 7 верасня артыкул Міхася Скобы «Вайна з крыжамі», дзе аўтар піша, як у цемрашальскай вайне з крыжамі бяруць удзел не толькі ўлады розных узроўняў, але і святары. Мяне гэта моцна ўразіла. Як такое можа быць? У Курапатах НКВД расстраляла тысячы беларусаў, а нехта, як ні прыкра, дагэтуль ставіць перашкоды тым, хто хоча ўвекавечыць памяць ахвяр. Гэта ж дзікунства і здзек з загінуўшых суайчыннікаў!

Нядаўна пачуў па Радыё Свабода, што ў Прыбалтыку прыязджаў прэм'ер-міністр Ізраіля, каб абмеркаваць справу ўшанавання яўрэяў, расстраляных мясцовымі савецкімі партызанамі. I мне падумалася: немагчыма нават уявіць, каб Аляксандр Лукашэнка ці Сяргей Румас паехалі ў Расію дзеля ўшанавання беларусаў, што загінулі ў засценках НКВД і ў ГУЛАГу. Кіраўніцтва Беларусі ніколі нават капейкі не выдзеліла на падобныя мемарыялы, як тое зроблена ўрадамі Польшчы і Літвы. Мы працягваем ісці дарогай бяспамяцтва. I куды прыйдзем?

Прывяду яшчэ адзін прыклад, як шануюць сваіх продкаў тыя ж яўрэі. У вёсцы Сітня Калінкавіцкага раёна немцы ў Другую сусветную вайну расстралялі двух яўрэяў. Дык на тым месцы іх супляменнікі паставілі помнік, правялі жалобны мітынг, а рабін прачытаў адпаведную малітву.

А цяпер – другі факт. Ва ўрочышчы пад Мазыром НКВД расстраляла мноства беларусаў. I там да гэтай пары нават мемарыяльнай дошкі няма.

Мала адкрыць у Курапатах помнік, вакол якога апошнім часам столькі спрэчак у СМІ. Неабходна прыняць Закон «Аб ушанаванні памяці беларусаў, што загінулі ў гады сталінскага тэрору», бо такіх месцаў, як Курапаты, у Беларусі – дзясяткі.

**Алесь ЗАРАНОК.**
*г.Калінкавічы.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Хачу мець інфармацыю пра Еўрапейскія гульні

*Вядома, што з 21 па 30 чэрвеня 2019 года ў Мінску адбудуцца II Еўрапейскія гульні. Скажыце, калі ласка, колькі відаў спорту будуць прадстаўлены? Чуў, што быццам з 50 краін прыедуць спартсмены… Ці не магла б «Народная Воля» даць больш падрабязную інфармацыю?*

**Алег МІЛЬКЕВІЧ, сталы чытач «Народнай Волі».**

Спадар Мількевіч!

На II Еўрапейскіх гульнях спаборніцтвы будуць праходзіць па 15 відах спорту. Пры гэтым, заўважым, дзесяць з іх стануць кваліфікацыйнымі да летняй Алімпіяды-2020 у Токіа. Спаборніцтвы па дзюдо, веславанні на байдарках, боксе, бадмінтоне пройдуць у рангу чэмпіянатаў Еўропы.

Так, сапраўды чакаецца прыезд спартсменаў з 50 краін. А ўсяго іх будзе больш за чатыры тысячы.

Калі Вы, шаноўны наш чытач, цікавіцеся II Еўрапейскімі гульнямі, то ў дадатак скажам, што ў дні іх правядзення ў Мінск з візітам прыбудуць прыкладна 100 прэзідэнтаў, генеральных сакратароў еўрапейскіх федэрацый па відах спорту і міністраў спорту.

Для асвятлення Еўрапейскіх гульняў плануецца прыбыццё больш за тысячу прадстаўнікоў замежных сродкаў масавай інфармацыі.

МУДРЫЕ МЫСЛИ

*Вели дураку принести чалму – он принесет её вместе с головой.*

*(Таджикская пословица.)*

СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «НАРОДНАЙ ВОЛІ»

Герберт ДАНЦЭР:

# «Расійская ваенная палітыка – вынік «дэмакратуры»

*Мой суразмоўца – палкоўнік бундэсвера ў адстаўцы **Герберт Данцэр**. Цяжка знайсці ў Германіі або ў іншых заходніх краінах чалавека, які настолькі грунтоўна разбіраўся б у асаблівасцях ваенна-стратэгічнай палітыкі сучаснай Расіі. У 1995–1997 гадах спадар Данцэр прайшоў поўны курс навучання ў Акадэміі Генеральнага штаба Расійскай Федэрацыі. Наступныя два гады ён быў адным з галоўных міжнародных інспектараў звычайных узбраенняў расійскай арміі. Са жніўня 1999-га па красавік 2002 года займаў пасаду ваеннага аташэ Амбасады Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Маскве, з мая 2002-га па студзень 2005 года там жа быў прадстаўніком брусельскай штаб-кватэры НАТА, а з ліпеня 2005-га па верасень 2007 года служыў у самой штаб-кватэры Паўночнаатлантычнага альянсу. Ужо больш за 10 гадоў Герберт Данцэр выступае як эксперт, чытае лекцыі па тэматыцы, звязанай з расійскай арміяй і ваенна-прамысловым комплексам. Калі надарылася магчымасць задаць яму пытанні наконт таго, якім чынам фарміруецца і трансфармуецца расійская ваенная палітыка цяпер і чаго можна чакаць ад кіраўніцтва РФ у гэтай сферы ў будучыні, я не мог ёю не скарыстацца. Наша гутарка праходзіла падчас вучэбнага семінара для студэнтаў з краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія праводзіўся ў германскім Бад-Кісінгене.*



**– Спадар Данцэр, ваша шчыльнае знаёмства з расійскімі палітыкамі і генераламі пачалося падчас вашага навучання ў Акадэміі Генштаба Расіі. Што вы можаце сказаць пра настроі, якія панавалі там у сярэдзіне 1990-х гадоў?**

– Збольшага гэта былі зусім не благія людзі, у галовах якіх, аднак, трывала сядзелі ідэалагемы накшталт таго, што «ЗША хочуць захапіць уладу ва ўсім свеце і выкарыстоўваюць НАТА як звычайны інструмент дзеля гэтага», «Расія – вызваліцель народаў і галоўны захавальнік міру ва ўсім свеце», «Гарбачоў вінаваты ў развале Савецкага Саюза». Пры гэтым тэму першай чачэнскай вайны, якая ішла ў той час, яны цалкам абыходзілі.

**– Але ж расійскія кіраўнікі і тады, і цяпер нястомна сцвярджалі і сцвярджаюць, што НАТА таксама паводзіць сябе несумленна ў дачыненні да краін, якія ў яго не ўваходзяць, і стварае крызісныя сітуацыі.**

– Кіраўніцтва краін-членаў НАТА рабіла і, пэўна, і цяпер робіць памылкі, але гэтых памылак ніхто не хавае, іх свабодна абмяркоўваюць у парламентах, у прэсе, на самых розных іншых пляцоўках. У Расіі з кожным годам дзейнасць ваенных ахутваецца ўсё большай заслонай таямніцы. Пачынаючы прыкладна з 2004 года Расія паслядоўна на самых розных узроўнях згортвае супрацоўніцтва з НАТА, часцей і часцей адмаўляецца весці канкрэтныя размовы па пытаннях, жыццёва важных для ўсяго свету. У 2015 годзе расійскае кіраўніцтва ўзяло курс на стварэнне новай, схаванай ад міжнароднага назірання сістэмы абароны (якраз тады яна выйшла з Дамовы аб кантролі над звычайнымі ўзбраеннямі). Не скажу, што ў гэтай сітуацыі ідэальна паводзяць сябе і Злучаныя Штаты Амерыкі. Іх намер размясціць ракеты сярэдняга радыуса дзеяння ў Польшчы ў адказ на размяшчэнне Расіяй патэнцыяльных носьбітаў ядзерных боегаловак у Калінінградскай вобласці пакуль што належным чынам з саюзнікамі па НАТА ўзгоднены не быў.

**– Вашы апаненты скажуць, што мы, маўляў, не можам верыць Захаду, і ў прыватнасці НАТА, бо ён хоча падпарадкаваць сабе іншыя краіны і народы.**

– Расія даўно і настойліва дамагаецца ад нас, каб мы вярнуліся да стратэгіі падзелу свету на сферы ўплыву, якая дыскрэдытавала сябе яшчэ ў 30-я гады мінулага стагоддзя і вынікам якой сталі дзясяткі мільёнаў ахвяр у Другой сусветнай вайне. Уладзімір Пуцін заяўляе, што ён збіраецца быць абаронцам інтарэсаў «русского мира» ва ўсім свеце. Мы ж лічым, што інтарэсы правоў кожнага чалавека ў любой дзяржаве павінна абараняць гэтая дзяржава, і, калі яна гэтага не робіць належным чынам, міжнародная супольнасць мае права ўжываць да такой краіны розныя абмежавальныя захады, аж да прамых санкцый. Расійская Федэрацыя некалькі разоў афіцыйна спрабавала прапанаваць такую сістэму міжнароднай бяспекі, у якой цалкам адсутнічае чалавечая асоба, а лёсам гэтай асобы цалкам распараджаецца дзяржава. Расійскія палітыкі па-ранейшаму лічаць, што суверэнітэт краін-членаў ААН можа быць «поўны» і «няпоўны». Такія падыходы для Захаду абсалютна непрымальныя.

Кіраўніцтва НАТА рабіла захады, звязаныя з умяшаннем у дзеянні палітыкаў і вайскоўцаў іншых краін толькі ў выпадку, калі там пад пагрозай было само права на жыццё вялікай колькасці людзей, і, заўважце, такія рашэнні прымаліся пасля складаных і адкрытых дэбатаў. Расія ж у поўнай таямніцы рыхтавала анексію Крыма яшчэ перад тым, як з Кіева ўцёк прэзідэнт Януковіч: курорты і пансіянаты гэтага ўкраінскага рэгіёна яшчэ з часу, калі ў Сочы праходзіла зімовая Алімпіяда (а закончылася яна, як вядома, 7 лютага 2014 года), засяляліся расіянамі, якія пазней арганізоўвалі «народную падтрымку», выходзілі на дэманстрацыі ў падтрымку дзеянняў маламікіх крымскіх сепаратыстаў. Ніякіх колькі-небудзь сур'ёзных пагроз жыццю крымчан або стабільнасці агульнай абстаноўкі там, аднак, папросту не было.

**– Мне здаецца, што Захад вельмі млява адрэагаваў на тагачасныя дзеянні Расіі ў Крыме…**

– Цалкам з вамі згодны. Палітыкі, якія дапусцілі першую пасля 1945 года акупацыю часткі адной еўрапейскай дзяржавы іншай (я маю на ўвазе і падзеі ў раёне Луганска і Данецка), праявілі недаравальную слабасць, сталі аб'ектам жорсткай крытыкі з боку сваіх парламентаў і грамадскасці. Цяпер трэба зрабіць так, каб нешта падобнае ў прынцыпе не магло паўтарыцца. Магчымасці для гэтага ёсць: расійская эканоміка надзвычай моцна залежыць ад свайго экспарту энерганосьбітаў у краіны Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. На мой погляд, аднак, Уладзімір Пуцін у сваёй палітыцы адносна Украіны ўжо атрымаў паражэнне: яго быццам бы выйгрышы абарочваюцца куды больш значнымі пройгрышамі… Толькі гэтым можна патлумачыць фактычны зрыў выканання Мінскіх пагадненняў па сітуацыі ва Украіне. І мы ведаем, з чыёй віны адбываецца гэты зрыў, хто стаіць за спробамі пабудаваць новыя дзяржавы на ўкраінскай тэрыторыі.

Не магу не сказаць і пра агульны лад мыслення некаторых крамлёўскіх стратэгаў. У Маскве вельмі хацелі б пасварыць аб'яднаную Еўропу са Злучанымі Штатамі, аслабіць, а тое і разбіць, Еўрапейскі Саюз і потым паасобку ўжо «разбірацца» з асобнымі краінамі.

**– Чаму расійскае кіраўніцтва праводзіць менавіта такую палітыку?**

– Таму, што ў краіне ўзнік рэжым, які мала кантралюецца ўласным грамадствам. У адной з газет я вычытаў трапнае, на маю думку, азначэнне гэтага рэжыму – «дэмакратура». Тут, як кажуць, няма чаго дадаць…

**– Як бы вы, вядомы эксперт, маглі адказаць на наступнае пытанне. Дапусцім, у Беларусі прыходзіць да ўлады ўрад, незалежны ад Масквы. Як вы лічыце, наколькі верагоднай магла б быць у такім выпадку прамая ваенная інтэрвенцыя з боку ўсходняга суседа з мэтай вырашыць за нас нашы ўнутраныя праблемы?**

– Лічу такое развіццё падзей верагодным, але толькі калі Захад не засвоіць урокаў падзей 2014 года ва Украіне.

**– Што павінна быць зроблена заходнімі краінамі, каб расійскае кіраўніцтва вярнулася да палітыкі раўнапраўнага дыялогу?**

– Прапановы вельмі канкрэтныя. Па-першае, Расія павінна трымацца агульнапрынятых каштоўнасцяў, датычных жыцця чалавечай асобы, і адысці ад прапаганды ідэі «асаблівай місіі Расіі», «асобнай расійскай цывілізацыі», бо гэта вядзе да падзелаў і канфліктаў.

Другое. Каб гэта стала рэальным, Захаду трэба больш рашуча і паслядоўна ўмацоўваць свае пазіцыі, пры неабходнасці выкарыстоўваць сваю эканамічную моц. ЗША павінны больш актыўна ўдзельнічаць у еўрапейскіх справах.

Трэцяе. Трэба весці больш шырокі дыялог з Расіяй на самых розных узроўнях, а вынікі такіх кантактаў павінны быць шырока вядомыя.

Чацвёртае. Захад і Расія павінны выпрацаваць агульныя падыходы ў разуменні гісторыі, а таксама дасягнуць яснасці ў тым, што тычыцца сапраўдных праблем чалавецтва: змяненне клімату, дэфіцыту пітной вады і харчавання, якасці адукацыі, масавай міграцыі.

**Гутарку вёў Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

АУКЦИОН

## Инвалидное кресло Стивена Хокинга выставят на торги

*Личные вещи британского физика Стивена Хокинга выставят на торги аукционнного дома Christie's. Среди лотов – экземпляр докторской диссертации и одно из инвалидных кресел ученого, сообщает Associated Press.*

Всего с молотка уйдут 22 предмета, включая книги, награды и научные работы Хокинга. Одна из пяти копий докторской диссертации на тему «Свойства расширяющихся вселенных», подписанная ученым, оценивается в сумму от 130 тысяч до 195 тысяч долларов. Стоимость инвалидного кресла оценивается в 13–19,5 тысячи долларов.

Вырученные средства пойдут в благотворительный фонд Хокинга и Ассоциацию по борьбе с заболеванием двигательных нейронов.

Стивен Хокинг умер умер 14 марта в возрасте 76 лет у себя дома в Кембридже. Перед смертью физик работал над книгой «Короткие ответы на большие вопросы». Судя по отрывку, который в октябре опубликовал The Times, ученый допускал появление в будущем расы сверхлюдей с измененными ДНК, которые станут угрозой для всего человечества.

РАССЛЕДОВАНИЕ

## Распылить дракона

*Что будет с бывшим президентом Интерпола Мэн Хунвэем?*



В конце сентября китайский гражданин, глава Интерпола и по совместительству замминистра общественной безопасности КНР 64-летний Мэн Хунвэй отправляется из Франции в Китай, где следы его теряются. Перед тем, как связь с ним прервалась, господин Мэн отсылает своей жене Грэйс сообщение, из которого она понимает, что муж оказался в беде. Одновременно ей начинают поступать угрозы по телефону, звонящие говорят на китайском языке. Грэйс обращается в полицию города Лиона, где находится штаб-квартира Интерпола. Прокуратура Лиона заводит уголовное дело об исчезновении человека, семью Грэйс берут под охрану. Интерпол отправляет китайским властям официальный запрос о судьбе Мэн Хунвэя. Китайское руководство держит паузу и на запрос не отвечает. 7 октября генеральный секретариат Интерпола внезапно получает от пропавшего Мэн Хунвэя прошение об отставке – и немедленно удовлетворяет его. В этот же день на сайте Центральной комиссии КПК по проверке дисциплины появляется сообщение, что Мэн Хунвэй подозревается в нарушении закона. Кроме того, становится известно, что глава Интерпола был взят под стражу сразу по прибытии в Китай.

### Красная карточка Интерполу

Вообще-то, исчезновения граждан в Китае вещь довольно распространенная. Однако раньше это касалось диссидентов, коррумпированных чиновников, а также жителей Синьцзян-Уйгурского автономного района, которых власти подозревают в экстремизме и сепаратизме. Но исчезновение директора Интерпола, пусть даже он и китайский гражданин, – это уже немного другая история.

Эта новость ошарашила многих. Во-первых, сам факт исчезновения главы Интерпола выглядел почти как насильственное похищение. Во-вторых, непонятно было, как такого крупного международного чиновника могли взять за шкирку и отправить под следствие.

Чтобы ответить на этот вопрос, надо понять, каковы полномочия Интерпола (Международной организации уголовной полиции). Обыватели часто полагают, что это могущественная правоохранительная структура, права которой распространяются чрезвычайно широко. Многие думают, что так называемые «красные карточки» Интерпола – это ордера, обязательные к исполнению во всем мире.

На самом же деле Интерпол – организация, которая координирует усилия национальных правоохранительных органов. Интерпол не обладает статусом субъекта международного права (хотя благодаря соглашениям с ООН был признан в качестве межгосударственной организации). На практике же главная функция Интерпола состоит в том, чтобы информировать, что того или иного человека та или иная страна объявила в международный розыск. Таким образом, красные карточки Интерпола вовсе не являются обязательными для исполнения. Выдавать или нет преступника по запросу, решает страна, где этот преступник в данный момент находится.

Формально Интерпол занимается только уголовной стороной дела (сюда же в последнее время входит и терроризм). На практике же свои красные карточки он выдает, не разбираясь в нюансах, и в адрес разного рода диссидентов. И хотя, как уже говорилось, карточки эти не подразумевают обязательной выдачи, но человека могут задержать и начать разбирательство.

Именно поэтому, когда в ноябре 2016 года главой Интерпола стал видный китайский силовик Мэн Хунвэй, международные правозащитные организации забеспокоились: не получат ли теперь свои красные карточки все, кто не нравится китайским властям? Время показало, что беспокойство было ненапрасным. Только в 2017 году в страну удалось вернуть 1,3 тысячи человек, включая 347 чиновников.

Однако реакция правозащитников Интерполу практически безразлична. Фактически это хозрасчетная организация: она получает деньги, во-первых, в виде обязательных взносов от стран-участниц, а во-вторых, от так называемых внешних доноров. Среди них, кстати сказать, были не только ФБР и Еврокомиссия, но также табачная компания Philip Morris и даже ФИФА.

Теперь понятно, почему так легко китаец стал главой Интерпола: у КНР много денег. Понятно, почему Интерпол так легко сдал своего президента: не Мэн Хунвэй же Интерполу деньги перечисляет. Отставку его приняли мгновенно, тут же объявив, что его место займет старший вице-президент Ким Ён Ян. А чтобы никто не беспокоился, объяснили, что на организации все это якобы никак не скажется: текущими делами, дескать, ведает не Мэн Хунвэй, а генеральный секретарь Юрген Шток. Одним словом, хотите забрать своего товарища – о чем речь, берите, это все ваши внутренние китайские дела. Товарищ Си дал, товарищ Си взял.

### Взятки или заговор?

Однако в этой истории есть и другая сторона, куда более интересная, связанная с внутренними китайскими разборками, жертвой которых, очевидно, и стал товарищ Мэн Хунвэй.

Арест действующего президента Интерпола – мероприятие, чрезвычайное даже для нынешнего Китая, который не слишком склонен оглядываться на мнение международного сообщества. Не зря эксперты полагают, что решение это было принято на самом верху – лично председателем Си Цзиньпином.

Официальная версия, разумеется, коррупционная – взятки и помощь в получении контрактов для некой компании, которая борется с киберпреступностью. Версия смешная даже для китайского обывателя. Ни для кого уже не секрет, что под знаменем борьбы с коррупцией Си Цзиньпин уничтожает своих реальных и гипотетических оппонентов.

В комментариях читателей к статье в Le Parisien выдвигается забавное предположение, что чиновника отозвали в Китай, потому что его «развратил» Запад. Лет тридцать назад эта версия могла бы худо-бедно рассматриваться, но никак не сейчас. В Китае сегодня можно так развратиться, как не снилось никакому Западу.

Но, может быть, речь идет о вещах куда более серьезных? Возможно, Мэн Хунвэй оказался вовлечен в заговор против Си Цзиньпина? Вот эта версия выглядит уже более солидной, хотя и не без призвука конспирологии. Однако в Китае сейчас хватает влиятельных людей, недовольных политикой Си Цзиньпина и опасающихся за свое положение и саму жизнь. За время правления председателя Си они могли убедиться, что его борьба с врагами приобретает абсолютно беспощадный и непредсказуемый характер, понять, что терять им нечего, и чисто теоретически могли бы составить некое гнездо сопротивления, особенно на местах. И если кто-то из этих заговорщиков попался в руки силовиков, то очевидно, что начали брать всех, кто может иметь какое-то отношение к борьбе против председателя КНР, пусть даже самой призрачной.

Но зачем главе Интерпола и заместителю министра общественной безопасности идти против главы КНР? Мэн Хунвэй не является политической фигурой ни в Китае, ни за рубежом. По китайским понятиям, он хорошо устроился, так зачем же подкладывать мину под себя самого?

Кое-что объясняют слова, сказанные в Министерстве национальной безопасности КНР: *«Расследование в отношении него начато из-за его своенравности и из-за того, что он сам навлек на себя проблемы»*.

В чем же могла проявиться его своенравность? В первую очередь, в принадлежности не к тому клану.

Тут надо вспомнить, что в Китае чрезвычайно высоко ценится личная преданность патрону. А кто мог бы быть патроном Мэн Хунвэя? Для этого нужно заглянуть в его недавнее прошлое и вспомнить, что замминистра он стал в 2012 году, когда министром ведомства был Чжоу Юнкан. Тот самый Чжоу Юнкан, которого в июне 2015 года приговорили к пожизненному заключению за взяточничество, злоупотребление полномочиями и выдачу государственных секретов. К 2015 году Чжоу Юнкан уже давно был пенсионером. Однако председатель Си вытащил его с заслуженного отдыха и укатал на пожизненный срок. Зачем? В Китае важен даже не сам пост, а связи. Так вот, связи у Чжоу Юнкана, а точнее у его группировки, остались очень обширные. По мнению Си Цзиньпина, дракона недостаточно обезглавить, его надо превратить во прах и распылить. Поэтому председатель КНР старается стереть с лица земли не только врагов, но даже их тени.

***

Исчезновение Мэн Хунвэя свидетельствует о том, что Си Цзиньпин сделал следующий шаг в построении китайской диктатуры нового образца. Учитывая растущее влияние Китая в мире, ничего хорошего ни миру, ни самому Китаю такая ситуация не сулит.

**Алексей ВИНОКУРОВ.**

Международное информационное агентство «Фергана».

НУ И НУ!

## «Титаник II» отправится в плавание в 2022 году по старому маршруту

*Круизная компания Blue Star Lines выпустила видео, демонстрирующее технические обновления, благодаря которым с этим кораблем все будет в порядке.*

Анонсированный еще в 2012 году новый корабль будет не менее роскошным, чем предшественник, – с первоклассной кухней, бассейном и турецкими банями. Стоимость проекта оценивается в 500 миллионов долларов. Цена билетов для пассажиров пока не разглашается. Судно сможет вместить в себя 2400 пассажиров и 900 членов экипажа.

В первый свой рейс «Титаник II» отправится из Дубая, а затем проследует по маршруту первого «Титаника» – из Саутгемптона в Нью-Йорк.



